№174 (1987)
Пятніца , 17 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, сонечна, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +14...+16, сонечна, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +15...+17, сонечна, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +11...+13, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +11...+13, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +11...+13, сонечна, уначы — +3...+5, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## 56 няўрадавых арганізацый было закрыта ў Беларусі на працягу 2003—2004 гадоў

Такія звесткі агучыў на прэс-канферэнцыі ў Мінску каардынатар праграмы "Калектыўная абарона няўрадавых арганізацый Беларусі" Юрый Чавусаў.

Сустрэча з журналістамі была прысвечана выхаду з друку зборніка "Сведчанні пераследу беларускіх няўрадавых арганізацый", падрыхтаванага ў рамках праграмы абароны дэмакратычных няўрадавых арганізацый ад ціску з боку беларускіх уладаў.

Як адзначыў Ю.Чавусаў, 2003 год стаў годам "зачысткі" "трэцяга сектара" Беларусі. Масавы працэс ліквідацыі НДА, паводле яго слоў, быў ініцыяваны па асабістым распараджэнні кіраўніка дзяржавы. Прычым пад "зачыстку" траплялі "самыя моцныя арганізацыі", як правіла, праваабарончыя. Аднак насуперак рэпрэсіям з боку ўладаў большасць арганізацый працягваюць працаваць нелегальна, толькі сталі дзейнічаць "без аглядкі на Міністэрства юстыцыі", сказаў Ю.Чавусаў.

У зборніку таксама змяшчаецца пералік прозвішчаў асоб, якія маюць непасрэднае дачыненне да ліквідацыі грамадскіх арганізацый, — супрацоўнікаў Міністэрства юстыцыі, суддзяў Вярхоўнага суда, работнікаў пракуратуры. "Мы лічым, што ўсе гэтыя факты і прозвішчы людзей, якія маюць дачыненне да ліквідацыі грамадскіх арганізацый, павінны захавацца ў гісторыі", — сказаў Ю.Чавусаў.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**
**БелаПАН.**

## Гавіну адмовілі ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты

Акруговая выбарчая камісія па Гродзенскай сельскай выбарчай акрузе №54 адмовіла ў рэгістрацыі Тадэвушу Гавіну, адзінаму апазіцыйнаму кандыдату, які быў вылучаны па гэтай акрузе. Падставай для адмовы стала прызнанне несапраўднымі 62 з 1088 подпісаў, якія былі зданыя ў камісію. Гавін лічыць гэтае рашэнне палітычна матываваным і збіраецца абскардзіць яго ў Цэнтральнай выбарчай камісіі.

*— На выбаршчыкаў аказваўся ціск з мэтай прымусіць іх адмовіцца ад сваіх подпісаў. Акрамя таго, сябры камісіі, якія выязджалі ў вёскі з мэтай праверкі сапраўднасці подпісаў, выкарыстоўвалі такі прыём: яны прапаноўвалі выбаршчыкам падпісацца на чыстым аркушы паперы, каб параўнаць подпіс. Потым аказалася, што такім чынам выбаршчык падпісаў акт аб адмове ад подпісу!* — гаворыць **Тадэвуш Гавін.**

**Альгерд ТАЛКАНІЦА.**
*www.pahonia.promedia.by*

## Адна аварыя — тры смерці

У выніку дарожна-транспартнага здарэння, што адбылося ўвечары 15 верасня ў Шчучынскім раёне (Гродзенская вобласць) загінулі тры чалавекі.

Як паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, недалёка ад вёскі Тапілішкі мясцовы жыхар, кіруючы аўтамашынай "Аўдзі", выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з аўтамашынай "Волга" пад кіраваннем 50-гадовага жыхара горада Шчучына. У выніку ДТЗ загінулі абодва вадзіцелі і пасажыр, які ехаў у аўтамашыне "Волга".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**



**ГРОМКАЯ ТЕМА**

# «Теракт» под окнами Шеймана

**Вчера в половине девятого утра возле прокуратуры Республики Беларусь насильственно задержали заместителя председателя Белорусского Хельсинкского комитета, адвоката Гарри Погоняйло, журналиста информационного агентства «Интерфакс-Запад» Алексея Букчина и сотрудницу незарегистрированного правозащитного центра «Весна» Татьяну Ревяко**

Эти люди пришли поддержать жену вице-спикера Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва **Зинаиду Гончар**, которая в день пятой годовщины исчезновения **Виктора Гончара** и его друга бизнесмена **Анатолия Красовского** намеревалась раздавать идущим на работу сотрудникам прокуратуры брошюру *"Беларусь: нераскрытые преступления, новейшая история"*, где напечатаны известный доклад **Христоса Пургуридеса**, копия постановления о превентивном задержании командира СОБРа подполковника **Дмитрия Павличенко** за подписью бывшего председателя КГБ **Владимира Мацкевича** и экс-генпрокурора Беларуси **Олега Божелко,** некоторые другие документы, касающиеся громких исчезновений.

Следует отметить, что на утреннюю акцию к прокуратуре пришло не так уж и много народа: мать бесследно пропавшего оператора ОРТ **Дмитрия Завадского Ольга Григорьевна,** официальный представитель семьи **Юрия Захаренко Олег Волчек**, несколько правозащитников и журналистов. А вот сотрудников правоохранительных структур и различных спецслужб явилось так много, будто **Зинаида Гончар** решила организовать террористический акт в отношении генпрокурора **Виктора Шеймана,** которого, как известно, подозревают в причастности к исчезновению ее мужа и к которому она не может попасть на прием уже больше трех лет. Большинство службистов были в штатском и с рациями в руках. Они стояли почти в каждой подворотне около прокуратуры, растянулись в шеренгу перед входом в здание...

Несколько из них подошли к собравшимся с просьбой *"уйти отсюда"*. Адвокат **Гарри Погоняйло** начал объяснять, что люди ничего не нарушают, никаких противозаконных действий не совершают и никому не мешают. Внезапно его потащили к машине, стоявшей неподалеку. Гарри Петрович отчаянно сопротивлялся. Тогда трое молодчиков грубо подхватили его на руки и все-таки запихнули в авто.

Журналист информационного агентства "Интерфакс-Запад" **Алексей Букчин** наблюдал за происходящим вместе со всеми.

> *Сотрудников правоохранительных структур и различных спецслужб явилось так много, что некоторым могло показаться, будто Зинаида Гончар решила организовать террористический акт в отношении генпрокурора Виктора Шеймана.*

Когда схватили и его, он возмущенно воскликнул: *"А меня куда? Я же журналист!"* Но его никто не слушал. Таким же образом в машине оказалась и **Татьяна Ревяко**, в сумке которой находились брошюры. Как стало известно, задержанных доставили в Центральный РУВД Минска.

Зинаида Гончар была в шоке.

*"Это даже сложно комментировать,* — сказала она. — *Это не поддается никакой логике! Стоят здоровые мужики, у каждого из которых есть семья, дети. Неужели для них нет ничего святого? Они ведь всё прекрасно понимают, знают, что других путей у жен пропавших просто нет: мы сотни раз писали в прокуратуру, сотрудничали со следствием, но все без толку. Европа, Америка, Россия знают об этих исчезновениях, а у нас власть делает вид, что ничего не произошло! Говорят, Беларусь — свободная страна. Но мне не позволяют стоять и ходить, там, где я хочу, запрещают даже думать! Неугодных просто устраняют..."*

**Гарри Погоняйло:** "*Мне, как говорят в народе, "лепят" статью 172, часть 3...*"

Кстати, Зинаиде сотрудники ОМОНа также предложили пройти в машину. Она переспросила: *"Зачем? Что я там буду делать?"* Применить силу и грубость к этой женщине, слава Богу, никто не решился...

Напомним, что накануне пятой годовщины исчезновения Виктора Гончара его супруга обратилась к руководству трех белорусских телеканалов с просьбой предоставить ей слово в эфире. Зинаида Гончар намеревалась рассказать не только о том, как был похищен ее муж и как ведется расследование данного уголовного дела, но и высказать свое отношение к предстоящему референдуму.

*"На мое письмо не ответили,* — говорит она. — *Мне даже никто не позвонил с телевидения..."*

Адвокат **Гарри Погоняйло** называет случившееся возле прокуратуры грубейшим беззаконием.

*"В Центральном РУВДе я написал так называемое "объяснение нарушителя",* — рассказывает Гарри Петрович. — *Мне, как говорят в народе, "лепят" статью 172, часть 3 —* ***"Распространение печатных изданий, изготовленных с нарушением установленного порядка и не имеющих выпускных данных, содержание которых направлено на причинение ущерба государственному и общественному порядку, правам и законным интересам граждан".*** *Заметьте: не само по себе распространение печатных изданий, а именно* ***"содержание которых направлено на причинение ущерба государственному и общественному порядку, правам и законным интересам граждан".*** *За это "светит" пять минимальных зарплат или предупреждение в качестве профилактики.*



*Зинаида Гончар хочет узнать правду о судьбе своего мужа.*

**Фото photo.bymedia.net**

*Все случившееся я расцениваю как грубейшее беззаконие! В день пятой годовщины исчезновения Виктора Гончара и Анатолия Красовского люди пришли к прокуратуре, чтобы обратить внимание на то, что эти уголовные дела до сих пор не расследованы, потребовать от прокуроров надлежащего расследования и ведения надзора за этими делами. Мы вручаем им доклад Пургуридеса, рапорт бывшего начальника криминальной милиции* ***Николая Лопатика*** *и другие документы, собранные в брошюре, а нас привлекают за* ***"причинение ущерба государственному и общественному порядку"***! *Ничего себе! Сегодня в Беларуси расследование этих дел, оказывается, причиняет ущерб государству!"*

**Марина КОКТЫШ.**

**ДУЭЛЬ**

## Валерый Фралоў спадзяецца спагнаць з Сяргея Атрошчанкі 100 мільёнаў беларускіх рублёў

***28 верасня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска пачнецца судовае слуханне па іску аб абароне гонару і годнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў Валерыя Фралова да прадпрымальніка Сяргея Атрошчанкі.***

Нагадаем, што 15 жніўня 2003 года ў штотыднёвіку "Обозреватель", шэф-рэдактарам якога з'яўляецца прадпрымальнік С.Атрошчанка, быў надрукаваны артыкул журналісткі **Ганны Мураўскай** *"Депутаты Костян, Новосяд и Фролов — личностные антисемиты?"*. У публікацыі са спасылкай на словы старшыні Саюза яўрэйскіх арганізацый і суполак Беларусі **Леаніда Левіна** сцвярджалася, што дэпутаты Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Навасяд** і **Валерый Фралоў** прапагандуюць асобасны антысемітызм, *"причем исповедуют они нелюбовь к евреям везде, где бы ни находились"*.

Аднак Леанід Левін запэўнівае, што гэтыя словы прыпісала яму журналістка Мураўская.

*"Я не толькі не гаварыў гэтых слоў, але і не мог падумаць паставіць побач з прозвішчам Касцяна людзей, якія нідзе і ніколі не праяўлялі прыкмет антысемітызму, — Навасяда і Фралова... Ніколі і нідзе я не далучаў гэтых людзей да антысемітаў",* — напісаў Левін у лісце да газеты "Обозреватель" адразу пасля з'яўлення вышэйзгаданага артыкула. Левін паведаміў, што, наадварот, можа прывесці шмат прыкладаў, калі Навасяд і Фралоў аказвалі дапамогу Саюзу яўрэйскіх арганізацый і суполак Беларусі. Аднак рэдакцыя адмовілася друкаваць абвяржэнне Леаніда Левіна. Больш за тое, ТАА "Альянс-Медыя" звярнулася ў суд з іскам да газеты "Народная воля", якая ўзяла пад абарону лаўрэата Ленінскай прэміі, аднаго з аўтараў мемарыяльнага комплекса "Хатынь" Леаніда Левіна. Але кропкі над "і" не былі аб'ектыўна расстаўлены судом: ні рэдакцыя "Обозревателя", ні яе кіраўніцтва так і не прынеслі сваіх прабачэнняў дэпутатам. І тады Фралоў сам падаў іск аб абароне гонару і годнасці да шэф-рэдактара штотыднёвіка "Обозреватель" Сяргея Атрошчанкі. Фралоў патрабуе не толькі абвергнуць напісанае, але і спагнаць з рэдакцыі газеты "Обозреватель" (ТАА "Альянс-Медыя") у якасці кампенсацыі маральнага ўрону 100 мільёнаў рублёў.

*"Я спадзяюся на беларускі суд, самы справядлівы і гуманны ў свеце,* — гаворыць Валерый Фралоў. — *Я ўвогуле схільны верыць у прыстойнасць. У прыстойных людзей, у прыстойных суддзяў. Хваляваццa няма чаго: у мяне на сто працэнтаў выйгрышны іск".*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**



## Праваабаронцы лічаць указ А.Лукашэнкі аб прызначэнні рэферэндуму не адпавядаючым Канстытуцыі

*Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларускі Хельсінкскі камітэт" звярнулася з іскам у Вярхоўны суд краіны аб прызнанні неправамернымі дзеянняў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі па прызначэнні рэферэндуму.*

Як паведамляе прэс-служба РГА БХК, праваабаронцы лічаць указ А.Лукашэнкі аб прызначэнні рэферэндуму не адпавядаючым "Канстытуцыі, іншаму заканадаўству Беларусі" і "парушаючым правы грамадзян". У прыватнасці, зазначае РГА БХК, згодна з артыкулам 78 Канстытуцыі, "пералік пытанняў, якія не могуць быць вынесены на рэферэндум, вызначаецца законам". Такім законам з'яўляецца Выбарчы кодэкс, у частцы 3 артыкула 112 якога ўстанаўліваецца, што "на рэспубліканскі рэферэндум не могуць выносіцца пытанні, звязаныя з абраннем і вызваленнем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Разам з тым, як лічыць РГА БХК, пытанне, якое выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум 17 кастрычніка, "непасрэдна звязана з магчымасцю абрання канкрэтнай асобы — Прэзідэнта Лукашэнкі на чарговых выбарах". "Менавіта таму прапаноўваецца выключыць з часткі 1 арт. 81 Канстытуцыі ўказанне на тое, што "адна і тая ж асоба можа быць Прэзідэнтам не больш за два тэрміны", — мяркуе РГА БХК.

У выпадку зацвярджэння ўносімая ў Канстытуцыю папраўка дазволіць А.Лукашэнку вылучаць сваю кандыдатуру і быць абраным на пасаду прэзідэнта на трэці і насупныя тэрміны без абмежавання. Такім чынам, на думку РГА БХК, "А.Лукашэнка, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча кіраўніка дзяржавы, шляхам правядзення рэферэндуму па пытанні, якое прама звязана з абраннем і вызваленнем прэзідэнта, дзейнічаючы насуперак прадпісанням Канстытуцыі і прынятым на яе аснове законах, жадае дасягнуць сваіх карыслівых мэт і задаволіць асабістыя ўладныя амбіцыі".

Праваабарончая арганізацыя лічыць, што "дзеянні па змяненні канстытуцыйнага ладу і дасягненні дзяржаўнай улады гвалтоўнымі метадамі, а таксама шляхам іншага парушэння законаў Рэспублікі Беларусь, могуць быць кваліфікаваныя як захоп або ўтрыманне ўлады неканстытуцыйным шляхам".

Як зазначаецца ў паведамленні РГА БХК, "дзеянні прэзідэнта А.Лукашэнкі, які выдаў незаконны ўказ, замахваюцца на асновы канстытуцыйнага ладу, народаўладдзя, права грамадзян Рэспублікі Беларусь выбіраць і быць абранымі, ствараюць небяспеку парушэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян Беларусі, прадугледжаных Канстытуцыяй і міжнароднымі дагаворамі ў галіне правоў чалавека".

РГА БХК просіць Вярхоўны суд прызнаць дзеянні прэзідэнта па выданні ўказа № 431 "Аб прызначэнні рэспубліканскага рэферэндуму" "неправамернымі, якія ўшчамляюць правы грамадзян, і ліквідаваць дапушчанае парушэнне спосабамі судовай абароны...".

Апрача таго, РГА БХК і група грамадзян звярнуліся да Канстытуцыйнага суда, а таксама да Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, Вышэйшага Гаспадарчага суда, Савета міністраў Рэспублікі Беларусь — органаў, надзеленых правам звароту ў Канстытуцыйны суд, з просьбай узняць пытанне аб адпаведнасці ўказа прэзідэнта Асноўнаму закону Беларусі.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

ПУЛЬС

## Тэлевядучая Алена Спірыдовіч упершыню паспрабавала сябе ў ролі спявачкі

Яна выканала дуэтам са спеваком Кірылам Слукой песню "Прывітанне, сябры!". Плануецца, што гэтая кампазіцыя неўзабаве з'явіцца ў эфіры беларускіх радыёстанцый.

"Калі мне Кірыл патэлефанаваў і сказаў, што ёсць песня, я да гэтага не паставілася сур'ёзна. Падумала, можа, калі-небудзь і запішам, — паведаміла А.Спірыдовіч. — Але літаральна праз пару дзён Кірыл зноў патэлефанаваў і сказаў, што трэба прыехаць у студыю. Вось тады я і стала хваляваць, бо гэта ж мой першы запіс песні. Слова гонару, я не хвалявалася так ні перад адным канцэртам. Работа ў студыі — вельмі захапляльны працэс. А песня атрымалася вельмі мілая і добрая. Я спадзяюся, што яна спадабаецца публіцы".

Паводле слоў К.Слукі, песня прысвечана вядучым. "У ёй гаворыцца аб тых, хто ўвесь час прадстаўляе публіцы народных любімцаў", — сказаў выканаўца. Паводле яго слоў, "ён многім удзячны А.Спірыдовіч. "Алена мяне прадставіла як вядучага на "Славянскім базары", з ёю побач я адчуваю сябе вельмі ўпэўнена, і мне хацелася ёй падзякаваць за момант сцэнічнай падтрымкі".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Наш талент на «Фабрыцы мрояў»

З асаблівай цікавасцю сустрэлі віцебскія гледачы новы расійскі 13-серыйны тэлесерыял "Фабрыка мрояў" у пастаноўцы вядомага кінарэжысёра Дзмітрыя Астрахана.

Справа ў тым, што адну з галоўных роляў у прэм'ернай кінааповесці, трансляцыя якой пачалася 15 верасня, выконвае карыфей віцебскай сцэны, адзін з вядучых акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа, народны артыст Беларусі Тадэвуш Кокштыс, выдатны майстра характарных і камедыйных вобразаў. Ветэрану айчыннага мастацтва ўжо амаль 70 год, але ўзрост не бярэ верх над яскравым тэмпераментам і прафесіяналізмам папулярнага майстра сцэны, адно імя якога ў афішы здольнае сабраць паўнюткую залу сапраўдных паклоннікаў Мельпамены.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Дзень адчыненых дзвярэй

*23 верасня ў Мінску пройдзе акцыя "Дзень адчыненых дзвярэй", прысвечаная Міжнароднаму дню барацьбы з гандлем людзьмі. Яе арганізатарам выступае грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын".*

У рамках мерапрымства ўпершыню кансультанты гарачай лініі "Ла Страда" правядуць разгорнутыя кансультацыі па пытаннях бяспечнага выезду і знаходжання за мяжой, звязаных з працаўладкаваннем, замужжам або ўдзелам у студэнцкіх праграмах. Апрача таго, удзельнікі акцыі змогуць браць удзел у разгадванні тэматычных крыжаванак і латарэі з уручэннем фірменных прызоў. Тут жа пройдзе выстава дзіцячых малюнкаў.

У канцы праграмы будзе арганізаваны бясплатны паказ фільма шведскага рэжысёра Ларса фон Трыера "Догвіль" з Ніколь Кідман у галоўнай ролі. Пачатак сеанса ў 17.45.

Акцыя пройдзе ў сталічным кінатэатры "Цэнтральны". Яе пачатак у 16 гадзін.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Адзін суцэльны сметнік...

*"Тое, як мы абыходзімся з адыходамі, — гэта архаічны спосаб. Неабходна арганізацыя прамысловага збору адыходаў і перапрацоўкі другаснай сыравіны", — заявіў дырэктар камунальнага унітарнага прадпрыемства па перапрацоўцы адыходаў "Экарэс" Іван Хоміч.*

Паводле яго слоў, два праведзеныя летась тэндэры па пошуку інвестара для будаўніцтва ў Мінску завода па перапрацоўцы адыходаў не прынеслі вынікаў, і цяпер у гарвыканкаме распрацоўваецца праграма абыходжання з адыходамі на перыяд да 2015 года.

Паводле звестак Хоміча, штодзённа ў Мінску ўтвараецца 10 тысяч кубаметраў, або 50 тысяч тон адыходаў, якія складзіруюцца на трох палігонах — Трасцянец, Паўночны і Прудзішча (толькі для прамысловых адыходаў) агульнай плошчай 74 гектары. Пры гэтым амаль па 25 працэнтаў смецця ўтвараюць папера і харчовыя адыходы, 8 працэнтаў — палімеры, па пяць працэнтаў — тэкстыль і шкло. Да канца будучага года на землях былога танкавага палігона ў двух кіламетрах ад вёскі Трасцянец будзе абсталявана новая пляцоўка для складзіравання бытавых адыходаў плошчай каля 30 гектараў (палігон Трасцянецкі). Заказчыкам яго будаўніцтва выступае ўпраўленне камунальнай гаспадаркі Мінгарвыканкама. Як зазначыў І.Хоміч, у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі, гэты палігон будзе абсталяваны гідраізаляцыяй, устройствамі для кантролю за станам грунтовых вод і навакольнага асяроддзя, неабходнай інфраструктурай.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Горкае пахмелле

Горш чым ад пахмелля ў выніку тыднёвага запою, адчувае сябе пасля візіту супрацоўнікаў міліцыі і падатковых органаў малады жыхар Віцебска, які грунтоўна займаўся падпольным гарэлачным бізнесам.

У кватэры непрацуючага гараджаніна аператыўнікі знайшлі сыравіну і абсталяванне для вырабу і разліву фальсіфікаванай алкагольнай прадукцыі: 5 літраў пітнога спірту, прыстасаванне для закупоркі бутэлек, 4 тысячы коркаў, 1,5 тысячы гарэлачных і вінных этыкетак, больш за 2 тысячы фальшывых акцызных марак і 159 ужо гатовых да продажу бутэлек з сумніўнымі спіртнымі напоямі, афармленымі як стандартныя гарэлка і віно.

## «Прадам вінтоўку ў добрым стане...»

Відаць, не ад раскошнага жыцця вырашыла зарабіць жыхарка Віцебска, прадаючы выпадкова знойдзеную ў лесе савецкую вінтоўку Мосіна 1930 года выпуску. Аднак супрацоўнікі крымінальнага вышуку не сталі шукаць у дзеяннях кабеты змякчальных абставін, а затрымалі яе і неўзабаве прад'явілі сур'ёзнае абвінавачанне. Нягледзячы на ўзрост, вінтоўка прызнана годнай да стральбы, і жанчыне цяпер пагражае абмежаванне або нават пазбаўленне волі за незаконнае захаванне і продаж агнястрэльнай зброі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Небяспечная знаходка

*Шкляная ёмістасць з 12 кілаграмамі ртуці была знойдзена ў Гродне.*

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе МНС, паведамленне аб знаходцы за некалькі метраў ад жылога дома па вуліцы Індурская шаша бутэлькі з рэчывам серабрыстага колеру паступіла ў мясцовую пажарную аварыйна-ратавальную службу недзе апоўдні. Яе знайшлі два падлеткі, вучні школы № 131.

Супрацоўнікі падраздзялення МНС, якія прыбылі да месца знаходкі, забралі ёмістасць, у якой аказалася каля 12 кілаграмаў ртуці. 10 грамаў вадкага металу вылілася на зямлю, і ратавальнікам давялося праводзіць дэмеркурызацыю мясцовасці.

Знойдзеная ртуць будзе здадзена для утылізацыі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

ЭКСПЕРТИЗА

# Вектор в Азиопу

*Итак, событие, о неизбежности которого так долго говорило все политизированное сообщество, свершилось. Однако это не тот случай, когда говорят о самосбывающемся прогнозе. Это скорее рассеянное в социальном пространстве всеобщее ощущение самоочевидности.*

*Ведь референдум единодушно предсказывали не только эксперты, что было бы понятно. Согласно данным последнего соцопроса НИСЭПИ, проведенного в июне 2004 г., 88% (!) наших сограждан были убеждены, что Лукашенко станет добиваться продления своих президентских полномочий. То есть даже от аполитичной рядовой публики невозможно скрыть ежедневно демонстрируемое по телевидению упоение властью.*

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ**



Ни Борис Ельцин, ни Леонид Кучма, ни Владимир Путин не решились строить себе систему вечной власти. Лукашенко, встав на путь пожизненного царствования, перешел еще один рубеж, отделяющий Беларусь от Европы, — окончательно отождествил страну с государствами Центральной Азии, где похожие сценарии в ходу практически повсеместно.

Азиатизация Беларуси в политическом смысле подходит к своему логическому завершению.

Главной политической проблемой последних двух лет был вопрос о времени референдума.

Весь минувший год прошел для белорусского руководства под знаком надежды убедить Путина, с применением всего оружейного арсенала интеграции, подписать Конституционный акт Союзного государства, который предполагалось вынести на всенародное одобрение в связке с вопросом о третьем сроке. И только в апреле нынешнего года, выступая с посланием Национальному собранию, Лукашенко вынужден был констатировать, что договориться с Россией по этому вопросу не удалось. И, следовательно, встала задача искать сепаратные варианты продления полномочий.

Представляется, что проведение референдума вместе с выборами в Палату представителей оптимально для Лукашенко. Во-первых, потому, что вынесение на народный суд собственного намерения оставаться дальше на своем посту — шаг достаточно рискованный. Такая плохо замаскированная жажда власти вызывает непонимание и создает ощущение неправедности даже у части сторонников первого президента. Поэтому нужен благоприятный повод, призванный замаскировать слишком уж откровенные властолюбивые интенции.

Необходимо было найти паровоз, к которому можно прицепить вагон с референдумом. Выборы в Палату представителей и станут таким паровозом, о чем, собственно, сказал и сам Лукашенко в своем выступлении 7 сентября. Больше до самых президентских выборов никаких других пристойных поводов обратиться к народу "за разрешением" не предвидится.

Во-вторых, сейчас для Беларуси сложилась необычайно хорошая экономическая конъюнктура. Благодаря притоку нефтедолларов в Россию там увеличился спрос на наши товары. Есть возможность увеличивать зарплату, удерживать цены на коммунальные услуги. В этом году повезло с урожаем. Что будет через год, никто не знает. А вдруг упадут цены на нефть, погода не даст собрать много зерна? Поэтому надо ковать железо, пока горячо.

В-третьих, неопределенность с продлением президентских полномочий для главы авторитарного режима очень опасна. Затягивание вопроса о третьем сроке может привести к тому, что номенклатура начнет разбегаться в поисках нового хозяина и потихоньку саботировать выполнение высочайших указаний. Поэтому нужно заблаговременно послать всей вертикали сигнал, чтобы не рыпалась.

Единственное, что смущало и порождало сомнения в близости референдума, — это отсутствие имитации всенародного клича к "батьке" с нижайшей просьбой не оставлять сиротинушками без своего державного попечительства.

Да, **предполагалось, что события должны развиваться по такому сценарию.** Сначала появятся в государственных СМИ письма трудящихся, затем — резолюции собраний трудовых коллективов с единодушной просьбой не уходить... Понятно, что "народный президент" не может остаться равнодушным к стихийному порыву людей. После чего Лукашенко выступает с обращением к нации, говорит, что, как ни тяжело ему на этом посту, но чего, дескать, не сделаешь ради народа, — и объявляет референдум.

Однако все вышло по-другому. Объявление референдума не "по многочисленным просьбам трудящихся", а по собственной инициативе, как и тот факт, что его старт несколько раз откладывался, свидетельствует о неуверенности Лукашенко, отсутствии четко прописанной стратегии.

И еще один нюанс, говорящий о том же. На предыдущих референдумах Лукашенко выдвигал четыре вопроса. Иные из них (например, о частной собственности на землю или смертной казни) играли роль наживки, с помощью которой избиратель может проглотить и крючок основного вопроса.

Теперь выдвинут один вопрос (конечно, с правовой **точки зрения в предложенной формулировке два разных вопроса,** но мы имеем в виду политическую сторону), причем он задан в лоб, без всяких хитростей. Хотя были варианты спрятать суть вопроса. Например, можно было под предлогом усовершенствования Конституции предложить только часть первую статьи 81 в новой редакции, вместе с косметическими правками некоторых других статей.

Однако Лукашенко не пошел по этому пути. Он правильно рассудил, что такая незатейливая хитрость все равно была бы разгадана — со всеми вытекающими негативными последствиями. Слишком долго в общественном мнении муссировался вопрос о третьем сроке, чтобы можно было его спрятать. Поэтому президент решил, что теперь выгоднее идти с открытым забралом. Тем более что управление процессом подведения итогов всенародного голосования находится, как президент надеется, под его полным контролем.

Объявление референдума стало в определенной мере пощечиной Путину. Его отрицательная позиция по этому вопросу известна.

После недавней встречи в Сочи оба президента настойчиво подчеркивали, что у них нет разногласий и проблем. И вот через две недели, в день общероссийского траура, **Лукашенко объявляет о своем историческом указе...**

Последовавшее молчание Кремля весьма красноречиво. И лишний раз подтверждает **тезис об ограниченности влияния Москвы на Беларусь.** Окончательно посрамлены прогнозисты, долгое время уверявшие, что, дескать, уж этого Путин белорусскому коллеге никак не позволит.

Референдум внес резкое обострение в достаточно вялый ход предвыборной кампании, вызвал раскол и политизацию общества.

В этом смысле любопытны рассуждения официальных комментаторов о стабильности, которая якобы возможна только в случае нахождения у власти Лукашенко. Но если стабильность гарантирована лишь одним человеком и после его ухода страна развалится, то на самом деле это крайне неустойчивая, уязвимая и нестабильная система. Если страну может раскачать, как уверяют власти, "кучка оппозиционеров", то грош цена такой стабильности.

Борьба с применением такого оружия, как результаты социологических опросов, происходит во всем мире. Но в Беларуси она обретает форму войны без правил.

Государственные СМИ опубликовали результаты никому до сих пор не известного "независимого аналитического центра "Экоом", который объявил, что за Лукашенко проголосовало бы теперь 66,5% населения. В то же время, согласно данным балтийского отделения Института Гэллапа, проводящего у нас исследования с помощью независимых белорусских центров, на конец августа идею третьего срока поддерживало 29%, а против было 51%. Причем если брать число четко определившихся сторонников и противников изменений в Конституции, то здесь соотношение 2:1 в пользу последних. Эти результаты, заметим, полностью корреспондируются с данными регулярных соцопросов, проводимых в последние два года НИСЭПИ и лабораторией "Новак". Иначе говоря, **честного референдума Лукашенко не выиграть.**

Это первый вывод.

Второй таков: **оппозиция впервые в истории независимой Беларуси имеет за собой большинство населения по главному политическому вопросу в стране вообще и главному вопросу политической кампании.**

Сумеет ли она эффективно воспользоваться этим ресурсом?

*("Белорусские новости".)*

# 40 градусаў заклапочанасці

*"Ударим автопробегом по бездорожью и разгильдяйству!" — аўтарства гэтага слогана належыць вялікаму камбінатару Астапу Бендэру, а дакладней, ягоным стваральнікам пісьменнікам Ільфу і Пятрову. Пры ўсёй іранічнасці выслоўя ёсць у ім і здаровы сэнс. З негатыўнымі з'явамі, глыбока ўкаранёнымі ў народную свядомасць і побыт, трэба змагацца як адміністрацыйнымі мерамі, так і дасціпнай прапагандай і арыгінальнай агітацыяй.*



Сябры творчай суполкі "Майстар" пайшлі далей за Астапа Бендэра і, не марнуючы сілы на бессэнсоўную барацьбу з бездарожжам (для краіны, якая, замест таго каб праторанай дарогай ісці ў Еўропу, увесь час шукае нейкі "асобы шлях" немаведама куды, бездарожжа — з'ява запланаваная і невынішчальная), вырашылі замахнуцца на саму эмацыянальную аснову ўсходнеславянскай цывілізацыі — гарэлку. "Ударым мастацкай акцыяй па бутэльцы і прышчэмім хвост селядцу!" — так у вобразнай форме можна акрэсліць мэту антыалкагольнага саракаградуснага праекта, які з 15 верасня рэалізуецца ў сценах Палаца мастацтва.

Назва выставы чамусьці "трасянковая" — "Водка і хвост сялёдкі". Магчыма, аўтары праекта такім чынам маюць давесці, што з'ява, на якую яны апалчыліся, прыйшла да нас з-за ўсходняй мяжы Беларускай дзяржавы, а можа, проста вырашылі быць бліжэй да народа (насельніцтва). На выставе прадстаўлена шмат нацюрмортаў, дзе дамінуюць бутэлька альбо селядзец. Ёсць сюжэтныя палотны, плакаты, карыкатуры, дакументальныя фотаздымкі, а таксама абстрактныя і фантастычныя кампазіцыі, якія ў кантэксце экспазіцыі ўспрымаюцца насланнем нецвярозага розуму. А каб не было занадта змрочна, мастакі прапаноўваюць гледачу альтэрнатыву — здаровы лад жыцця, спорт, сямейныя радасці.

Самы арыгінальны экспанат выставы запазычаны ў Музеі крыміналістыкі. Гэта сапраўдны самагонны апарат. Мяркуючы па ягоных кампанентах, гэты ўзор народнай творчасці датуецца часамі так званай перабудовы, калі апошні генсек КПСС М. Гарбачоў вырашыў крута змяніць народныя звычкі, не папытаўшыся на тое народнага "кансенсусу". На чэргі да вінна-гарэлачных крамаў краіна адказала не наўпрост, а, як гавораць палітолагі, "асіметрычна". Праяву гэтай "асіметрыі" кожны цікаўны можа пабачыць з 15-га па 27 верасня ў Палацы мастацтва. Потым апарат вернуць у музей.

Народу на вернісажы было шмат. Адчувалася, што тэма людзей хвалюе. Пасля вернісажу адбыўся фуршэт.

Пабачанае на выставе вярэдзіць розум. Вось, скажам, па бездарожжы і разгільдзяйстве можна ўдарыць аўтапрабегам, па пьянстве і алкагалізме — мастацкай выставай, а чым ударыць па палітычным авантурызме мазаічных псіхапатаў?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**
**Фота photo.bymedia.net**



*Святочная малітва ў беларускіх іудзеяў перад пачаткам Новага года, які адзначаўся 15 і 16 верасня.*

**Фота photo.bymedia.net**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# Праталінкі

*Сярод шэрых і аднастайных будняў, абыякавасці і жорсткасці мы шукаем нешта светлае, добрае, чыстае, што заўсёды саграваў і саграве людскія сэрцы, робіць іх высакароднымі, а думкі і пачуцці — узнёслымі, што прымушае думаць, разважаць.*

## Сёма

Суседская кошка нядаўна нарадзіла маленькіх кацянятак. Усіх аддалі знаёмым. Сабе пакінулі толькі аднаго, каб і кошцы была радасць, і маленькаму ўнучку Ягорку, якому ўсяго два гады, было з кім гуляць. Кацяня жыло на кухні, грэлася каля газавага катла, ласавалася мамімным малачком і адчувала сябе зусім не кепска. Але аднойчы кошка не захацела карміць свайго дзіцяці, перастала да яго падыходзіць і наогул рэдка з'яўлялася ў хаце. Кацянятка пішчала так жаласліва, што не было сілы цярпець. Тады зяць Андрэй набраў у піпетку каровінага малака і пачаў выпойваць маленькую істоту. Але ці то малако не спадабалася, ці па маме кацянятка вельмі сумавала... Словам, яно не выжыла. І на кухні ў суседзяў стала ціха. Ягорка, які вельмі любіў жывы маленькі клубочак, засумаваў па ім, нібы дарослы. Прыйшоўшы на кухню, ён пільна аглядваў месца ля катла і ў скрусе разводзіў маленькімі ручкамі:

— Сё. Ма.

Гэта азначала: усё, няма больш кацяняткі.

І вось аднойчы старэйшая дачка суседзяў, якая жыве з сям'ёй у Мінску, прывезла дадому другое кацяня. Праўда, крышку большае, жвавейшае, але такое ж цёмненькае, як і тое было. Ягорка, ўбачыўшы на кухні жвавы камочак, радасна ўсклікнуў:

— Сё-ма! Сё-ма!

Ён хацеў сказаць, што вярнуўся яго любімец, быў знік, ды вярнуўся, але не знаходзіў патрэбных слоў, каб выказаць сваю радасць, і ўсё крычаў: Сёма! З таго часу ўсе ў доме пачалі зваць коціка Сёма. І Ягорка гэтаму вельмі рады.

## Мы чакалі аўтобуса...

Халодным восеньскім днём мы стаялі на адным з аўтобусных прыпынкаў і з нецярпеннем паглядалі ў той бок, адкуль павінен быў паказацца транспарт. Было сыра, золка. Людзей сабралася шмат: вясковыя таты і мамы праводзілі сваіх гарадскіх дзяцей, напакаваўшы ім поўныя сумкі гасцінцаў. Усе мы нецярпліва тапталіся па смецці, якога на аўтобусным прыпынку было ледзь не па костачкі. Нехта выкінуў абгорткі ад цукерак і пячэння, сухія кветкі, вецер нанёс апалага лісця.

— Як брудна на прыпынку! — абураліся жанчыны. — Проста ступіць няма дзе з-за смецця.

— І сапраўды, нехта ж павінен тут прыбіраць!

— А хто накідаў смецця, той няхай і прыбірае.

— Знойдзеш цяпер таго, хто накідаў.

— Усе кідаюць, а прыбіраць ніхто не хоча.

Усе актыўна ўключыліся ў спрэчку на тэму "хто павінен прыбіраць". І толькі нейкі малады чалавек не прамовіў ні слова. Ён падаўся ў прыдарожны хмызняк, наламаў там галля, хуценька звязаў венік. Падмёў і на прыпынку, і вакол яго. Здавалася, што навокал пасвятлела. А можа, не здавалася, можа, і сапраўды пасвятлела ў людзй на сэрцах ад таго, што гэты добры, працавіты чалавек без лішніх слоў зрабіў тое, пра што яны вялі пустыя размовы.

Смецце ўжо ляжала ў кучы, калі падышоў аўтобус.

— Ах, шкада, што не паспеў прыбраць, — пашкадавала нейкая кабета, сядаючы ў аўтобус.

— Нічога. Я падмёў, а можа, хто здагадаецца прыбраць, — весела прамовіў мужчына.

## Скарыначкі на асфальце

Ішлі па пасялковай вуліцы мама, тата і два хлопчыкі — адзін большы, а другі яшчэ дашкольнік. Насустрач ім з кіёчкам у адной руцэ і сумкай у другой тэпала бабуля. З сумкі была відаць булка хлеба.

— Я хлеба хачу, хлеба! — патрабаваў малы, паказваючы на сумку.

Бабулька пачула яго словы, адламала смачную скарыначку і працягнула хлопчыку:

— Еш, дзіцятка. — Сказала і пайшла далей.

Малы адкусіў раз, другі, а потым размахнуўся і кінуў скарыначку на асфальт.

— Не хачу больш... — капрызна надзьмуў губы.

Мама і старэйшы брацік палічылі гэта гарэзлівасцю і дружна засмяяліся. А тата не на жарт пакрыўдзіўся і абурыўся. Ён узяў малога за руку і сказаў:

— Ідзі і падымі скарыначку, вытры з яе пясок, пацалуй і пакладзі ў кішэньку, а як прыйдзем дадому, аддасі яе пеўніку. І запомніце, дзеці, хлеб нельга кідаць на зямлю. Ён — святыня. У ім праца людская. Вялікая праца. А як не было ўволю хлеба, паміралі маленькія дзеткі...

І малодшы, і старэйшы хлопчыкі ўважліва глядзелі на бацьку, а мама сараміліва апусціла вочы...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# Укрощение Елены Равбецкой

**16 сентября главный редактор гродненской независимой газеты «Биржа информации» Елена Равбецкая была вызвана в прокуратуру Ленинского района для разбирательства по вопросу материала «Предательство именем народа», опубликованного за ее подписью на первой полосе в номере от 9 сентября этого года.**

Как сообщил заместитель прокурора, старший советник юстиции А.Абрамович, в отношении Равбецкой вынесено постановление о возбуждении административного дела по ч.10 ст.172 прим Кодекса об административных правонарушениях РБ, выразившееся в нарушениях требований статьи 5 Закона о печати. А именно: "Не допускается использование средств массовой информации для распространения сведений, порочащих честь и достоинство Президента Республики Беларусь".

По словам Елены Равбецкой, претензии были предъявлены к следующим словам ее материала: **"Референдум (а без него третьего срока не получить), объявленный господином президентом, — это вызов обществу. Нужно обладать не только отсутствием совести, но и "господским" пренебрежением к плебсу...".** Равбецкая крайне удивлена, так как не усматривает оскорбления чести и достоинства в том, что лично ею дана собственная оценка действий руководящего лица страны. *"Я никого не унизила, не применяла ненормативную лексику, а, напротив, говорила эзоповым языком", — заявила Равбецкая. Она считает также, что возможное наказание по статье 172 — штраф от 50 до 100 минимальных зарплат, будет для нее просто неподъемным. "Поэтому судиться мы будем долго и упорно. Я полагаю, что будет назначена не одна лингвистическая экспертиза, чтобы выяснить, есть ли в статье оскорбление чести и достоинства, или я выражаю мое личное мнение и говорю правду", —* говорит главный редактор БИ Елена Равбецкая.

**Наталья МАКУШИНА.**

## Ваўкавыск адзначыць «Дажынкі», а пасля і сваё тысячагоддзе

Учора ў Ваўкавыску (Гродзенская вобласць) прайшло ганараванне лепшых сельскіх працаўнікоў Ваўкавыскага раёна. Мерапрыемства прымеркавана да рэспубліканскага фестывалю-кірмашу "Дажынкі-2004", які адбудзецца 17—18 верасня.

Да святкавання "Дажынак" цэнтр Ваўкавыска набыў новае аблічча. Праведзена рэканструкцыя на цэнтральнай плошчы горада, дзе адбудуцца асноўныя мерапрыемствы фестывалю, заменены інжынерныя сеткі дарожнага пакрыцця, зроблены рамонт фасадаў і дахаў будынкаў. Падчас падрыхтоўкі да свята ў горадзе было пабудавана 140 км дарог, укладзена 100 тысяч квадратных метраў тратуарнай пліткі і 100 км дарожнага бардзюра. Знесены 19 старых жылых дамоў, гаспадары якіх, у тым ліку сем'і ветэранаў вайны, што маюць патрэбу ў жыллі, атрымалі кватэры ў новым 84-кватэрным доме, узведзеным за кошт абласнога бюджэту. На плошчы таксама разбіты новы парк адпачынку, устаноўлена сучаснае асвятленне, пераробленны фантан.

У цэлым на добраўпарадкаванне горада, у якое ўкладзена каля 100 млрд. рублёў, працавалі 2,5 тыс. будаўнікоў.

Пасля свята работы будуць працягвацца, таму што ў 2005 годзе Ваўкавыск адзначыць сваё тысячагоддзе.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Паспрачаюцца маладыя ды галасістыя

Да 1 лістапада 2004 года беларускія выканаўцы, якія б жадалі браць удзел у Міжнародным тэлевізійным конкурсе песні "Еўрабачанне-2005", павінны прыслаць заяўку ў Нацыянальную тэлевізійную тэлерадыёкампанію.

Конкурс будзе доўжыцца да снежня. Пасля выбару 15 прэтэндэнтаў плануецца запісаць канцэрт, які будзе трансліравацца ў эфіры Першага нацыянальнага тэлеканала. Падчас эфіру пройдзе інтэрактыўнае галасаванне з удзелам тэлегледачоў.

Для кожнага з трох удзельнікаў, адабраных у выніку інтэрактыўнага галасавання, будзе запісана прафесійная фанаграма, зняты кліп і падрыхтаваны канцэртны нумар.

**Вольга АСІПЕНКА.**

